Народная Воля http://www.nv-online.info
29 САКАВІКА 2016 г.

АСОБЫ

# Іх помніць Еўропа...

*Як адна манета не пусціла Эдуарда Малафеева ў фінал. Чаму Сяргей Алейнікаў быў вымушаны слухаць перад матчамі сімфонію Бетховена? Навошта Сяргей Гарлуковіч вучыў нямецкую мову ў піўным бары? «Народная Воля» згадала гісторыі жыцця пяці беларусаў, якія ў розныя гады бралі ўдзел у чэмпіянатах Еўропы па футболе.*

### Герб або карона?

Калі быць педантам, **Эдуарда Малафеева** трэба выкрасліць з гэтага спісу. Усё ж такі легендарны нападаючы нарадзіўся ў Краснаярску. Але, як і ў выпадку з **Уладзімірам Мулявіным**, беларусы даўно прызналі Малафеева сваім.



Эдуард Васільевіч браў удзел у чэмпіянаце Еўропы 1968 года, у якім зборная СССР стала чацвёртай. Але ніякіх прычын для радасці не было. У фінальным турніры і так выступала ўсяго чатыры каманды. Ды і на канчатковы вынік паўплывала звычайная манета.

Паўфінальны матч паміж зборнымі СССР і Італіі, які адгуляў Малафееў, скончыўся з лікам 0:0. Два авертаймы – таксама. Але замест таго, каб біць пенальці, у тым годзе вырашылі кідаць манетку. Суддзя паклікаў да сябе капітанаў дзвюх каманд і спытаў у савецкага іграка **Альберта Шасцярнёва**: "Герб або карона?" Галоўны трэнер зборнай СССР **Міхаіл Якушын**, дасведчаны ў арлянцы, крычаў "Герб! Герб!", а Шасцярнёў разгубіўся і маўчаў. "Герб, тваю маць!" – зароў Якушын. Але адказу так і не было. Тады суддзя павярнуўся да італьянца. Той сказаў "Герб", і Італія выйшла ў фінал. Пазней італьянскі капітан **Факеці** прызнаўся ў інтэрв'ю, што нічога не ўгадваў, а паўтарыў тое, што сказаў савецкі трэнер. Італія стала чэмпіёнам Еўропы, а расчараваная зборная СССР прайграла і матч за трэцяе месца. З таго часу Малафееў у зборнай больш не гуляў.

У далейшым Эдуарда Васільевіча чакала чэмпіёнства з мінскім "Дынама", работа са зборнымі СССР і Беларусі. Цяпер 73-гадовы Малафееў адышоў ад актыўнай трэнерскай працы. Ён з'яўляецца экспертам мінскага "Дынама", які курыруе падрыхтоўку рэзерву і клубную школу.

### Кіроўца аўтобуса са срэбраным медалём

Прайшло 20 гадоў, перш чым беларусы зноў трапілі на "Еўра". Адным з двух шчаслівчыкаў быў паўабаронца мінскага "Дынама" **Сяргей Гоцманаў**. Ён так і не стаў асноўным іграком зборнай, але мог прынесці камандзе залаты медаль.



У фінале чэмпіянату Еўропы 1988 года савецкая зборная прайгравала з лікам 0:2. Здавалася, шанцаў на выратаванне ўжо не засталося. Але Гоцманаў пайшоў у атаку, і галандцы збілі яго ў штрафной пляцоўцы. Пенальці! Яго вырашыў прабіць нападаючы **Ігар Бяланаў**. Ён прабіў моцна і па цэнтры, спадзеючыся, што галандскі варатар скокне ў адзін з вуглоў. Але той застаўся на месцы. Лік застаўся нязменным, і зборная СССР атрымала толькі срэбра.

Сваю кар'еру Гоцманаў скончыў у сярэдзіне 1990-х. Тым часам яго жонку, майстра спорту міжнароднага класа па спартыўнай гімнастыцы, запрасілі на работу ў ЗША. Сяргей адправіўся за акіян разам з ёй. Некаторы час ён гуляў у клубе "Мінесота тандар", якая выступала ў трэцім дывізіёне, а потым уладкаваўся на работу кіроўцам школьнага аўтобуса. Як расказваў Гоцманаў у адным з інтэрв'ю, жонка неаднаразова клікала яго да сябе ў памочнікі (яна заснавала ўласны гімнастычны клуб), але былы футбаліст застаўся верны новай прафесіі. Кожны дзень ён устае ў шэсць гадзін. Да пяці вечара развозіць школьнікаў, да дзевяці трэніруе дзве дзіцячыя каманды, а потым накіроўваецца дадому і кладзецца спаць, бо заўтра яго чакае ранні пад'ём. Па такім графіку 57-гадовы Гоцманаў жыве вось ужо амаль два дзесяцігоддзі.

### Сімфонія Бетховена замест гімна і белае палатно замест сцяга

Калі беларусы яшчэ не ведалі ні пра **Валянціна Бялькевіча**, ні пра **Аляксандра Глеба**, агульнасаюзнай зоркай з'яўляўся **Сяргей Алейнікаў**. Нездарма ён першы з беларусаў прарубіў "жалезную заслону": у 1989 годзе



турынскі "Ювентус" заплаціў за Алейнікава каля 4 мільёнаў долараў! Сяргей стаў першым іграком з постсавецкай прасторы, які выйграў кубак УЕФА. Пазней, у сярэдзіне 1990-х, ён адкрыў для беларусаў экзатычную Японію, дзе гуляў тры гады.

Алейнікаў двойчы выступаў на чэмпіянатах Еўропы. У 1988-м разам з Гоцманавым заваяваў срэбраны медаль. Збіраўся на "Еўра" і ў 1992-м, але здарыўся казус. На чэмпіянаце мусіла выступаць зборная СССР. Але такой дзяржавы ў гэты час ужо не існавала. Таму спартыўныя чыноўнікі пайшлі на выключэнне і дазволілі існаванне зборнай СНД. Яна выступала пад белым сцягам, на якім было напісана па-англійску C.I.S. (Commonwealth of Independent States – Садружнасць незалежных дзяржаў), а замест гімна на словы **Сяргея Міхалкова** перад матчам выконваўся фінал 9-й сімфоніі Бетховена.

Зараз 54-гадовы Алейнікаў жыве ў Італіі. У матэрыяльным плане лепшы футбаліст Беларусі XX стагоддзя не ведае асаблівых цяжкасцяў. Але яго кар'ера пасля заканчэння актыўных выступленняў так і не склалася. Напрыклад, два гады таму Сяргей безвынікова працаваў у Літве (каманда, якую ён узначальваў, прапусціла 75 мячоў, забіўшы толькі адзін). А планы па стварэнні ў Мінску футбольнай школы Алейнікава так і засталіся марамі.

### «Морж» – алімпійскі чэмпіён

**Сяргей Гарлуковіч** – адзіны беларус, які стаў алімпійскім чэмпіёнам па футболе (у 1988 годзе ў Сеуле). Сваю кар'еру ён пачынаў у Магілёве і Гомелі. Але ў 1986-м, калі яму споўнілася 25 гадоў, перабраўся ў Маскву, а адтуль – на Захад. У Германіі яму пашанцавала. Гарлуковіча запрасілі на прагляд



у дортмундскую "Барусію". Была вельмі халодная зіма, і нямецкія гульцы выходзілі на трэніроўку, апранутыя, як на полюс. А Гарлуковіч выбег у трусах і футболцы ды яшчэ і жэстамі паказаў, што яму горача. Пасля чаго прэзідэнт каманды, які дрыжэў ад холаду, адразу даў каманду заключыць кантракт з беларускім "маржом". Гарлуковіч хутка адаптаваўся ў Германіі і вывучыў нямецкую мову. Прычым адмовіўшыся ад паслуг перакладчыка. Каб запомніць новую лексіку, пасля гульні ён адпраўляўся ў бар, піў піва і слухаў гутаркі простых балельшчыкаў.

Гарлуковіч пачаў выступаць яшчэ за зборную СССР. Калі Савецкі Саюз распаўся, прыняў запрашэнне Расіі. У складзе гэтай зборнай ён прыехаў на чэмпіянат Еўропы 1996 года, дзе рускія выступілі няўдала і не выйшлі з "групы смерці" (акрамя іх там ігралі Германія і Чэхія, якія сталі чэмпіёнам і віцэ-чэмпіёнам Еўропы).

Пасля сваёй доўгай кар'еры "Дзядуля" (так называлі Гарлуковіча) стаў трэнерам. Але больш праславіўся не поспехамі сваіх падначаленых, а скандалам, падчас якога п'яны Сяргей няўдала ўпаў і зламаў нос расійскаму паліцэйскаму. Праўда, алімпійскаму чэмпіёну гэта гісторыя сышла з рук.

### Ліст да прэзідэнта

Кар'ера апошняга са шчаслівчыкаў **Арцёма Мілеўскага** праходзіла на вачах усіх чытачоў "Народнай Волі". У 15 гадоў ён з'ехаў ва Украіну, а праз пэўны час заявіў, што хоча выступаць за зборную гэтай



краіны. Пачаўся скандал, бо Мілеўскі ўжо быў зайграны за юнацкую зборную Беларусі. На дапамогу ўкраінцам прыйшоў тагачасны прэзідэнт ФІФА **Ёзэф Блатэр**, якому Арцём напісаў асабісты ліст. Пасля яго ўмяшальніцтва беларусы пайшлі на саступкі, і Мілеўскаму дазволілі гуляць за Украіну. А ў 2006 годзе на чэмпіянаце свету ён разам з новымі суайчыннікамі прабіўся ў ¼ фіналу.

Але пакрысе кар'ера Арцёма пайшла на спад. Замест падрыхтоўкі да гульняў ён хадзіў на дыскатэкі, праводзіў час з мадэлямі ў барах, неаднаразова трапляў у аварыі, прычым у нецвярозым стане, з'яўляўся ў такім выглядзе на публіцы. Не дзіва, што ад яго сталі па чарзе адмаўляцца паспяховыя клубы. Футбаліст ледзь не скончыў кар'еру і цяпер гуляе за сціплы румынскі клуб "Канкордыя".

Свае апошнія матчы за зборную Украіны Мілеўскі правёў у 2012 годзе, калі ў гэтай краіне праходзіў чэмпіянат Еўропы. Цяжка верыцца, што хтосьці з трэнераў зноў выкліча ў зборную іграка з такой рэпутацыяй. Таму Арцём хутчэй за ўсё ўжо ніколі не трапіць на чэмпіянаты Еўропы.

Астатнім жа беларусам застаецца толькі лепш гуляць за сваю ўласную зборную і прабівацца на "Еўра". Нагадаем, што наша каманда там яшчэ ніколі не гуляла.

ДАРЭЧЫ

## Беларусы – на чэмпіянатах свету

Цікава, а хто з беларусаў удзельнічаў у чэмпіянатах свету па футболе? У спісе – тыя ж героі. **Эдуард Малафееў** удзельнічаў у чэмпіянаце свету 1966 года (тады зборная СССР заняла чацвёртае месца – лепшае ў сваёй гісторыі). **Сяргей Алейнікаў** выступаў на сусветных форумах у 1986 і 1990 гадах. **Сяргей Гарлуковіч** – у 1990-м і 1994 (другі раз – за зборную Расіі), **Арцём Мілеўскі** – у 2006-м (за Украіну). Апроч іх у склад савецкай зборнай запрашаліся **Сяргей Бароўскі** (1982) і **Андрэй Зыгмантовіч** (1990).

**Дзяніс МАРЦІНОВІЧ.**



З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

Аляксандр КУЛЬ:

# «Не хацеў бы, каб наша мова ператварылася ў мёртвую»

*Расказ пра тое, як мінскі баскетбольны клуб "Цмокі" стаў самым беларускамоўным спартыўным клубам у краіне*

*Сёння госць "Народнай Волі" – дырэктар цэнтра эканамічнага развіцця і спартыўнага маркетынгу мінскага БК «Цмокі»* **Аляксандр КУЛЬ.**

**– Давайце пачнём з вас. Самі ў дзяцінстве больш размаўлялі на беларускай мове ці на рускай?**

– Я вырас у вёсцы, дзе гаварылі, я сказаў бы, на мясцовым дыялекце. Шмат чытаў кніг, пры гэтым не важна было, на якой мове– на рускай ці беларускай. Калі пачаў займацца баскетболам і пераехаў у Віцебск, з мяне пачалі кпіць з-за таго, што размаўляў з "няправільным" вясковым акцэнтам. Даводзілася ўдасканальваць рускую мову.

У Мінску таксама не было беларускамоўнага асяродку, а чатыры гады жыцця ў Амерыцы дрэнна паўплывалі на веданне не толькі беларускай мовы, але і рускай. Праўда, затым, калі гуляў у Польшчы, хутка пачаў размаўляць на польскай мове, якая падобна на беларускую.

**– Вы наведваліся на бясплатныя курсы па беларускай мове "Мова нанова"?**

– Мяне запрашалі на курсы ў якасці госця. Фармат гутаркі з прысутнымі – вольны. Задаюць пытанні – я адказваю.

**– Вернемся да спраў клуба. Ці можна сказаць, што "Цмокі" ўзялі курс на «суцэльную беларусізацыю»?**

– *Скажам так, у нас беларускі брэнд. Прыгожая назва – "Цмокі",* беларускамоўны сайт, пераважна беларускамоўнае каментаванне сустрэч «драконаў», афішы, праграмкі, прэс-канферэнцыі на мове... Хаця прымусова беларускую мову нікому не навязваем. Няма такой палітыкі, што кожны супрацоўнік клуба абавязкова павінен размаўляць па-беларуску. Альбо што дакументаабарот таксама трэба весці на беларускай мове. Адным словам, мы прасоўваем беларускамоўны брэнд, але гэта атрымліваецца натуральным, а не гвалтоўным чынам. І галоўная наша задача – паказаць унікальнасць брэнда.

**– Хто аўтар назвы "Цмокі"?**

– *Без залішняй сціпласці скажу, што назву прыдумаў я. І адбылося гэта абсалютна выпадкова. Проста першапачатковая назва клуба "Мінск-2006" – яна, можа, і добрая, але мне як дырэктару спартыўнага маркетынгу была не цікавая. Назва больш падыходзіла для дзяржаўнай установы, але не для клуба, які хоча быць прывабным для балельшчыкаў. Аднойчы ў інтэрнэце пачытаў, што кампанія "Будзьма беларусамі" прапанавала зрабіць брэндам Беларусі цмока – міфалагічную істоту. Мне падумалася: "Цудоўная назва для клуба! З ёй можна працаваць". Я перачытаў шмат літаратуры па міфалогіі, зразумеў, што гэта вельмі цікавы вобраз. Сустрэўся з кіраўніцтвам кампаніі "Будзьма беларусамі", каб затым не адбылося сутыкнення брэндаў, там мяне, вобразна кажучы, і благаславілі на новую назву.*

**– Кіраўніцтва клуба было не супраць?**

– *Не адразу прынялі гэта, але я ўпарта ішоў да сваёй мэты. І ў выніку ў* верасні 2012 года «Мінск-2006» быў перайменаваны ў «Цмокі-Мінск» .

**– Беларускамоўны клуб – гэта для нашага спорту экзотыка?**

– Думаю, ужо не экзотыка. Паглядзіце, у вышэйшай лізе футбольнага чэмпіянату з'явілася каманда таксама з адметнай назвай "Крумкачы". Многія клубы ўзялі курс на беларусізацыю, балельшчыкі вітаюць такія крокі, ігракі бяруць удзел у розных акцыях па папулярызацыі роднай мовы... Як кажуць, працэс ідзе. Сёння беларусізацыя робіцца модная і папулярнай сярод моладзі з'явай. А моладзь – гэта і ёсць наша аўдыторыя. Трэба да яе прыслухоўвацца.

**– Ці складана працаваць з беларускамоўным брэндам?**

– Абсалютна не. Было складана ў пераходны перыяд, калі даводзілася мітусіцца паміж рускай і беларускай мовамі. Напрыклад, сайт трэба было рабіць на англійскай, беларускай і рускай мовах, а гэта павялічвала аб'ём работы і выдаткаў. Эканомілі, таму зараз ад рускай версіі мы адмовіліся. У каментарыях некаторыя нават пісалі, што пасля гэтага наогул не будуць наведваць сайт, бо не разумеюць беларускую мову. Тым не менш адразу пасля пераходу на беларуска-англійскую версію колькасць наведвальнікаў на сайце рэзка павялічылася, хаця з цягам часу вярнулася прыкладна на ранейшы ўзровень.

**– Ведаю, што гульцы клуба таксама бяруць удзел у розных беларускамоўных акцыях...**

– Так, хоць на беларускай мове і не размаўляюць. Не так даўно праводзілі віктарыну з удзелам легіянераў "Цмокаў" і беларускіх баскетбалістаў. Ім трэба было адказаць, што азначае тое ці іншае беларускае слова. І аказалася, што веданне роднай мовы ў сербаў прыкладна такое ж, што і ў нашых ігракоў.

**– Аляксандр, а вашы дзеці размаўляюць дома на мове?**

– Трэба ўлічваць, што большую частку часу яны праводзяць у рускамоўным асяродку, а гэта, безумоўна, мае вялікі ўплыў. Хаця старэйшая дачка – уся ў мяне і вельмі любіць чытаць. Як на рускай мове, так і на беларускай. Малодшай дачцэ зараз 8 гадоў, і ў яе іншыя захапленні – уся ў творчасці. Нешта майструе, малюе, робіць сваімі рукамі... Хаця мову ўдасканальвае. А сыну пакуль 3 гады, таму ён запамінае ўсё, што чуе. І рускія словы, і беларускія, і нават англійскія.

**– Неяк вы сказалі, што вашы дзеці чуюць беларускую мову два разы на тыдзень...**

– Не толькі мае. У малодшай дачкі, калі не памыляюся, урокі беларускай мовы ў школе ўсяго два разы на тыдзень. Адзін час было наогул раз на тыдзень. Пра якое паўнацэннае вывучэнне мовы ў такім выпадку можа ісці размова? Каб добра валодаць мовай, трэба жыць у такім жа моўным асяродку. Мова павінна стаць часткай цябе. Я, калі пажыў некалькі гадоў у Амерыцы, стаў не толькі размаўляць па-англійску, але і думаць.

Але мне, натуральна, не хацелася б, каб беларуская мова ператварылася ў мёртвую. Без мовы няма нацыі.

**Алесь СІВЫ.**

УСМІХНІЦЕСЯ!

***

Рэклама. Вы не хочаце наступаць на адны і тыя ж граблі? Прыходзьце да нас – у нас шырокі выбар!

***

Калі да цябе звяртаюцца з просьбай «Скажы мне, толькі чэсна!», з жахам разумееш, што зараз давядзецца многа хлусіць.

***

Калі да мяне прыйшло сапраўднае каханне, мне вельмі пашанцавала – жонкі не было дома.

***

Чужога нам не трэба, але сваё мы возьмем, чыё б яно ні было!

***

Ідуць выпрабаванні новага лякарства. Пацыент з кантрольнай групы заходзіць да доктара:

– Чаму вы замянілі мне прэпарат?!

– А што вымушае вас думаць, што я яго замяніў?

– Раней, калі я выкідваў таблеткі ва ўнітаз, яны плавалі на паверхні, а зараз патанаюць.



АВТОРИТЕТНО

Александр СЕДНЕВ:

# «Болельщики – не преступники»

Средняя посещаемость игр футбольного чемпионата Беларуси в сезоне-2015 – 1709 зрителей. Этот показатель стал антирекордным за всю историю проведения турнира!

– Проблема сложная, – говорит тренер могилевского «Днепра» А.Седнев. – И здесь даже не одна проблема, а целый комплекс. В первую очередь – это класс игроков и команд. Второе – комфорт на стадионе. Третье – экономические возможности людей.

**– В Минске некоторые клубы делали вход на стадион бесплатным, но болельщиков от этого больше не становилось.**

– Возможно. Но я знаю немало людей, которые не могут себе позволить выделить из семейного бюджета деньги для похода на футбол. Так что этот фактор все-таки тоже нужно учесть. Но в целом каждый должен работать на своем месте. Детские тренеры должны растить будущих звезд, тренеры команд высокой квалификации – создавать соответствующие команды, а клубы – организовать сервис на стадионе. Понимаете, всегда есть с чем сравнивать. И если человек несколько раз видел, как может быть, то он делает для себя выводы. Зачем ему платить деньги за плохой продукт? Это как потребитель в магазине. Вы можете купить китайские ботинки, а можете и немецкие.

**– Возможно, и милиция должна вести себя лояльнее по отношению к болельщикам?**

– Безусловно, это тоже влияет на посещаемость. Нам элементарно не хватает культуры. Не только органам правопорядка, но и самим болельщикам. Понимаете, за руганью и обоюдными претензиями кое-кто забыл о нормальном человеческом общении. Той же милиции не надо изначально видеть в любителях футбола преступников. Мне по роду деятельности приходится общаться с фанатами, это в подавляющем большинстве абсолютно адекватные ребята. Не похоже, что у них в головах только одно – устроить беспорядки на стадионе. Наоборот – они предлагали такие вещи, которые просто вызывали восторг. В Бобруйске, например, болельщики с разрешения властей устроили на трибунах файер-шоу, это было непередаваемо! Даже футболисты отвлекались от игры, чтобы




посмотреть представление. Так почему такого быть не должно?! Нужно сделать все, чтобы футбол превратился в праздник для людей. Уверен: если создать соответствующий антураж, то и футбол будет смотреться иначе. Ведь не такие уж и слабые белорусские клубы.

**– Минское «Динамо» выступало в групповом этапе Лиги Европы, БАТЭ – традиционно в Лиге чемпионов...**

– И это еще раз подтверждает мои слова. Так что, как говорится, все в наших руках.

**– Задача у «Днепра» в этом сезоне – вернуться в высшую лигу?**

– Естественно. Для этого мы сделаем все возможное.

**Алесь СВЕТЛАНИЧ.**

Адрас рэдакцыі: 220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а. Прыёмная: тэл./факс (017) 3286871. Тэл. рэкламнага аддзела: (017) 3286609 nvonlineinfo@gmail.com http://www.nv-online.info

9 772071 964000 16024

Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ

У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, правы ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 28.03.2016 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 25 120 экз. Заказ № 898